Зборнік дакладаў
пашыранага круглага стала

# Грамадзянская супольнасьць у абароне цывілізацыйна-культурнай ідэнтычнасьці Беларусі: ад „Зробім лепш!“ да „Барані сваё!“






2014

# Зборнік дакладаў
# пашыранага круглага стала

## Грамадзянская супольнасьць у абароне цывілізацыйна-культурнай ідэнтычнасьці Беларусі: ад „Зробім лепш!“ да „Барані сваё!“

18 верасьня 2014 году

# ЗЬМЕСТ

**Вінцук Вячорка**

# АБАРОНА ПРАВА НА ІДЭНТЫЧНАСЬЦЬ – СУПОЛЬНАЯ МІСІЯ АДКАЗНЫХ ГРАМАДЗЯНАЎ

Насьпела пара задумацца пра глябальныя рэчы. Каб не аказалася так, што заўтра ня будзе незалежнай Беларусі і грамадзкія структуры раптам адкрыюць для сябе, што яны разам з грамадзтвам апынуліся ў Матрыцы, зь якой выхаду дакладна няма, бо зьнікне беларускі народ як такі.

Каб адэкватна апісаць нашу рэальнасьць, насьпела пара адысьці ад слоўных стэрэатыпаў, якія ёй не адпавядаюць. Напрыклад — нумарацыі „сэктароў“. Чаму грамадзкія ініцыятывы — „трэці сэктар“? Быццам у нас ёсьць „другі сэктар“ — сапраўды незалежны бізнэс, быццам ёсьць партнэрства паміж сэктарамі. Сёньня грамадзянская супольнасьць ёсьць ня сэктарам уяўнага ідэальнага кругу — соцыюму ў дзяржаве, а адзінай альтэрнатывай суцэльнаму чыгуннаму кругу, які цяжэе над Беларусьсю, як гнёт над бочкай з агуркамі.

## Украіна

Украінскі досьвед перадусім паказаў, што нават у адносна больш дэмакратычнай тамтэйшай дзяржаўнай мадэлі ані дзяржава, ані статусныя палітыкі ня здолелі своечасова адказаць на выклікі незалежнай Украіне і пагрозу самому існаваньню дзяржавы. Гэта зрабіла і эфэктыўна робіць украінская грамадзянская супольнасьць: грамадзкія ініцыятывы, журналісты, прафсаюзы, цэрквы, мясцовыя грамады. Без дабрахвотніцкіх батальёнаў, у якія пайшлі тыя самыя



майданаўцы, не ўдалося б пачаць адраджэньне ўкраінскай арміі — здавалася б, самага кансэрватыўнага дзяржаўніцкага інстытуту.

Для ўсіх, хто цяпер адбудоўвае ўкраінскую дзяржаўнасьць, зьяўляюцца каштоўнасьцямі ўкраінская незалежнасьць, мова, культура, гістарычная памяць і не падлягае дыскусіі эўрапейскі, эўраатлянтычны цывілізацыйны выбар.

У нас сытуацыя інакшая, але ў цэлым цяжэйшая, чымся ва Ўкраіне. Аднак гэтага не ўсьведамляюць нават адукаваныя, здольныя самастойна мысьліць людзі. Пануе ірацыянальны спадзеў на тое, што цяперашняя ўлада „столькі гадоў выкручвалася і цяпер неяк выкруціцца“. Усьведаміць небясьпеку ды неабходнасьць карэктаваць місію грамадзянскай супольнасьці Беларусі дасца няпроста.

**„Русскій міръ“ вачыма беларусаў**

Расейская ўлада разумее, наколькі мова істотная як чыньнік кансалідацыі дзяржавы, а таксама як інструмэнт імпэрскага рэваншу. Канцэпцыю „русского мира“ прыдумаў вядомы тэхноляг маніпуляцыяў масавай псыхалёгіяй Пётр Шчадравіцкі (Шчадравіцкі-малодшы), а Пуцін паставіў яе на дзяржаўныя рэйкі. Ёсьць фонд „Русский мир“, ёсьць фэдэральная мэтавая праграма „Русский язык“, скіраваныя перадусім на „бліжняе замежжа“ і шчодра фінансаваныя. Спачатку выкарыстоўваецца „мяккая сіла“, а потым, калі яе рэсурсаў недастаткова, прыходзіць сіла нямяккая, каб гвалтам спыніць імкненьне былых савецкіх народаў да свабоды ды зацягнуць іх назад у імпэрыю.

Вялікая аблуда — спрабаваць абвясьціць расейскія ідэнтыфікатары, такія, як мова, таксама і ўласнасьцю Беларусі ды будаваць на гэтым дзяржаўнасьць. Як той казаў, „разбурыць манаполію на расейскую мову“. Пуцін заўсёды будзе больш эфэктыўны ў гэтым (а таксама ў апоры на

савецкія патэрналісцкія рэфлексы й таталітарныя сымбалі). „Русскоязычные“, паводле заяваў расейскага МЗС, — гэта этнас, які Расея павінна абараняць, за якімі б межамі ён ні быў. Паводле НІСЭПД, з тэзаю „Няма ніводнай краіны ў сьвеце, уключаючы Расею, дзе б так беражліва ставіліся да вялікай расейскай мовы і да вялікай расейскай культуры“, у Беларусі ў чэрвені пагаджаліся 49,6%. Такім чынам, „прысваеньне“ беларусамі расейшчыны адбываецца, але ці спрыяе яно самастойнасьці мысьленьня?

Вось жа наадварот. Многія беларусы праз тое, што знаходзяцца ў расейскім моўна-інфармацыйным полі, фактычна атаясамілі сябе з пасылам імпэрскае прапаганды. У чэрвені сёлета далучэньне Крыму да Расеі назвалі „імпэрыялістычным захопам, акупацыяй“ 26,9% апытаных беларусаў, а „вяртаньнем Расеі расейскіх земляў, аднаўленьнем гістарычнай справядлівасьці“ — ажно 62,2%, што ненашмат адстае ад настрояў у самой Расеі. Гэта рэальна небясьпечна. Калі заўтра іхныя любімыя расейскія каналы назавуць „аднаўленьнем гістарычнай справядлівасьці“ аншлюс Беларусі, ці яны будуць пратэставаць?

Вось жа пры пагрозе тэрытарыяльнай цэласнасьці Беларусі 47,7% „імкнуліся б прыстасавацца да новай сытуацыі“ і 16,5% „віталі б гэтыя зьмены“ — разам 64,2% калябарантаў. „Супрацiўляцца са зброяй у руках“ гатовыя толькі 14,2% апытаных. Зрэшты, можа ня „толькі“, але ажно 14,2% — нягледзячы на мэтадычнае зьнішчэньне нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў.

**Грамадзтва і дзяржава**

Недарэчна, калі некаторыя маладыя аналітыкі кажуць пра гэты працэнт як пра „адзіны рэсурс улады“. Яны не разумеюць, што ў Беларусі застаецца прыкметная частка грамадзтва, якая не атаясамлівае ўладу і дзяржаву, дзяржаву і краіну. А афіцыйная лінія індактрынацыі была скіраваная менавіта на атаясамленьне гэтых трох розных паняцьцяў. Гэта пагроза для

незалежнасьці. Не павінна быць так, што сыход пэўнай улады азначае разбурэньне дзяржавы і страту незалежнасьці краіны. У крытычнай сытуацыі людзі бароняць сваю краіну, а ня ўладу. Таму менавіта ад грамадзянскай супольнасьці Беларусі, ад лідэраў думак — творцаў, навукоўцаў — залежыць, ці грамадзтва паскораным тэмпам усьведаміць сваю беларускую ідэнтычнасьць і экзыстэнцыяльную пагрозу ёй. Спадзявацца на цяперашнюю ўладу, якая раптам возьмецца бараніць беларускую ідэнтычнасьць, — памылкова і шкодна, такія спадзевы дэмабілізуюць.

Што да „статусных палітыкаў“, хай сабе дэкляратыўна дэмакратычных, то яны пры адсутнасьці электаральнай сытуацыі робяць выгляд, што такая сытуацыя ёсьць, і вымушаныя падладжвацца пад масавыя настроі, фобіі, стэрэатыпы. Яны аб’ектыўна ня могуць быць носьбітамі каштоўнасьцяў, лідэрамі павароту думкі.

## Права на ідэнтычнасьць

Зусім ня факт, што наш клопат будзе цалкам зразуметы „старым“ дэмакратычным сьветам. Так, моўныя правы, калектыўныя правы народаў на ідэнтычнасьць не ўваходзяць у першы шэраг правоў чалавека, якія адстойвае эўраатлянтычны сьвет. У падставовым праваабарончым тэксьце — Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека — не ідзецца аб права на мову, а толькі аб недыскрымінацыю асобы, незалежна ад яе мовы. Вось чаму тыя ў сьвеце, хто адстойвае моўныя правы, дамагаюцца пераводу іх з катэгорыі культурных правоў „другога шэрагу“ ў правы жыцьцёва важныя, такія, як права на жыцьцё і свабоду. Зноў жа — украінскія падзеі даюць падставу пераасэнсаваць такія падыходы ў дачыненьні да нашага рэгіёну „постсавецкай“ Усходняй Эўропы. Культываваньне беларушчыны азначае пашырэньне прасторы свабоды. І на гэта здольнае толькі адказнае грамадзтва, а не далёкая ад дэмакратыі дзяржава.

## Чаго не рабіць

Чаго не рабіць інтэлектуалам, грамадзкім дзеячам, творчым асобам? Не падаваць грамадзтву двухсэнсоўных сыгналаў. Не размываць каштоўнасьці й прынцыпы, і без таго размытыя, яшчэ больш. Напрыклад, рашуча адмаўляцца ад прэміяў так званага „Саюзнага гасударства“, а не падводзіць базу пад уласную маладушнасьць, маўляў, лепш я яе вазьму, я ж сьведамы, чым нехта безыдэйны.

Ня так даўна адзін папулярны блёгер на тэмы пэдагогікі напісаў праграмны артыкул пра рэформу адукацыі ў Беларусі, дзе пасьля бясспрэчных прапановаў наконт дэбюракратызацыі, прывёўшы міжнародныя адукацыйныя рэйтынгі на чале з Эстоніяй і Сынгапурам, а зусім не з Расеяй, раптам выдаў доўгую рэкамэндацыю, як уніфікаваць беларускую асьветную сыстэму з расейскаю.

Незалежны сацыёляг выдае год за годам прагнозы пра зьніжэньне долі беларускамоўных, пры гэтым так і ня ўставіўшы ў анкету варыянт адказу „Разумею беларускую без праблемаў“, г. зн. пасіўнае валоданьне мовай (якое ў спрыяльны момант ператорыцца ў актыўнае) не ацэньваецца наагул, а публіцы як доля беларускамоўных падаецца толькі мізэрны працэнт (3—5%) тых, хто карыстаецца літаратурнаю моваю.

Адказны перад будучыняй народу творца, навуковец, экспэрт, публіцыст не павінен дэмаралізаваць грамадзтва, беспадстаўна маргіналізаваць беларушчыну і тым аслабляць абарончы патэнцыял беларускай ідэнтычнасьці.

## Роля грамадзкіх арганізацыяў

Нехта павярхоўна скажа: што ж, няхай культурніцкія няўрадавыя арганізацыі займаюцца сваёй дзейнасьцю,

папулярызуюць гісторыю-мову-культуру, асьвячаюць моладзь і нямоладзь, а прычым тут іншыя?

Адкажу. Культурнікі сваю справу будуць рабіць, але гаворка цяпер пра больш глябальныя рэчы. Аўтэнтычныя грамадзкія ініцыятывы ствараюць і вядуць адказныя, адукаваныя людзі. У кожнай рэальнай ініцыятывы ёсьць свая мэтавая група. Падтрымліваць каштоўнасную атмасфэру, скарыстоўваць нагоду для інфармацыйных пасланьняў можна і трэба ў любой дзейнасьці, скіраванай на людзей.

Самае простае: вядзіце любую сваю дзейнасьць па-беларуску, прынамсі часткова. Асабліва каштоўныя ініцыятывы, зьвязаныя з самаарганізацыяй людзей у абароне сваіх маёмасных правоў — зямельных, зьвязаных зь нерухомасьцю. Яны на ўласным досьведзе пераконваюцца ў небясьпеках, якія нясе прыход расейскага драпежніцкага капіталу, і хутчэй прыходзяць да шырэйшых незалежніцкіх перакананьняў.

Асамблея НДА як пляцоўка дае магчымасьць каардынавацца розным ініцыятывам, каб у культурна-адукацыйных зьяўляліся каналы ўзьдзеяньня, а ў чыста сацыяльных зьяўляўся адукацыйны кампанэнт і вэктар самаарганізацыі людзей. А ці не павернецца сытуацыя вакол нашай краіны, а ў выніку ў ёй самой, так, што менавіта на грамадзкія ініцыятывы зваліцца адказнасьць — за арганізацыю мэтавай дапамогі, нейкіх першасных мэдычных паслугаў, за забесьпячэньне інфармацыйнага поля і гэтак далей? У падсьвядомасьці гэта трэба мець на ўвазе.

Выбар міжнародных партнэраў і геаграфіі абменаў зараз становіцца стратэгічнай справай. Практыка паказвае, што калі беларускія грамадзяне, скажам, настаўнікі, едуць ва Ўкраіну (у мірныя гарады, вядома) і кантактуюць там з калегамі ў прафэсійных пытаньнях, менавіта дзякуючы гэтаму яны вяртаюцца з праўдзіваю карцінаю падзеяў і грамадзкай атмасфэры ва Ўкраіне, яны ня толькі не павераць расейскай

прапагандзе, але, наадварот, стануць бясспрэчнымі крыніцамі аб’ектыўнай інфармацыі пра становішча ва Ўкраіне для сваіх калегаў, родзічаў і суседзяў. А вось з расейскімі партнэрамі цяпер трэба быць вельмі абачлівымі.

Ці, скажам, тыя, хто працуе з уцекачамі. Мы яшчэ ня ўсьведамілі каштоўнаснай праблемы, якую нясе Беларусі плынь прарасейскіх, прасавецка арыентаваных перасяленцаў з усходняга Данбасу. Ужо цяпер фіксуюцца выпадкі, калі беларускамоўных у Беларусі абзываюць „правым сэктарам“! Навукоўцы хай займаюцца папулярызацыяй гуманітарных ведаў. Адукатары і журналісты хай вызначаюцца пазыцыяй, у тым ліку моўнай. Недарэчна, калі адзіны беларускамоўны тэлеканал, бадай што найлепшае ўкладаньне рэсурсаў у дапамогу фармаваньню грамадзкай сьвядомасьці ў Беларусі, раптам паступова ўкараняе расейскую мову. Сумны паварот у ЭГУ, адкуль спачатку выштурхнулі бальшыню беларускамоўных выкладнікаў, а потым і наагул зьвярнуліся да мадэлі, якую выгнаныя ў наступную пасьля беларускамоўных чаргу назвалі аўтарытарнай. Гаворыцца пра набор расейскіх студэнтаў. А гэта ж усё вялікія міжнародныя матэрыяльныя выдаткі, як лічыцца, на беларускую пэрспэктыву.

На міжнародным роўні мы павінны, абавязаныя тлумачыць інтэрнацыянальным структурам, экспэртам, тым, хто прымае рашэньні, наколькі нам важна дбаць пра паскоранае аднаўленьне нацыянальнай ідэнтычнасьці беларусаў. Што ня трэба гэтага аднаўленьня ідэнтычнасьці баяцца, бо яно не супярэчыць дэмакратычнай пэрспэктыве, а наадварот, служыць для яе абавязковай умовай; што ў нас няма свайго Львова, але затое няма і Данбасу (дакладней, ён ёсьць, але размазаны тонкім пластом па ўсёй тэрыторыі краіны).

Настае момант ісьціны, спадарства.

**Вацлаў Арэшка**

# ВЫКЛІК №1 ДЛЯ БЕЛАРУСІ
# АЛЬБО НАШ КРЫЖОВЫ ПАХОД

## Гістарычны кантэкст

Супрацьстаяньне беларускага сьвету і „русского міра“ налічвае шмат вякоў. Калі зірнуць на некаторыя старадаўнія мапы, выразна бачна, што за межамі Вялікага Княства пачынаецца „Тартарыя“ — прастора цемры і барбарства. Сьцьверджаньне, што беларускія землі былі мяжою, франтырам, трэба ўдакладніць. Яны былі не „нічыйнаю“ „памежнаю зонаю“, а мяжою Эўропы, Заходняй цывілізацыі. Мурам Эўропы. На жаль, у XXI стагодзьдзі не атрымалася сьвету без муроў.

Рэчаіснасьць пераконвае нас, што муры застаюцца актуальнымі, больш за тое, іх трэба часам панаўляць і разбудоўваць. Сымбалічна, што новая Ўкраіна вымушаная будаваць ужо не віртуальны, а самы рэальны мур на мяжы з той жа самай „Тартарыяй“ — з Расеяй.

## А ці патрэбны сёньня новы мур нам, беларусам?

Аналіз паняцьцяў „русскій мір“ альбо „беларускі“ ці „эўрапейскі“ сьвет — гэта асобная тэма. Спадзяюся, ёй будзе прысьвечаная спэцыяльная канфэрэнцыя. Адзначу толькі тое, што мне здаецца найважнейшым. Гэта пытаньне выбару. Для фармаваньня беларускага сьветапогляду наяўнасьць вольнага выбару была грунтам. На працягу стагодзьдзяў абіраліся каралі і мясцовыя шляхецкія ці гарадзкія



кіраўнікі. Пытаньнем свабоднага выбару для многіх была канфэсія. Нават прыналежнасьць да пэўнай нацыянальнай групы была часам пытаньнем выбару (прыгадайма хаця б братоў Івано ўскіх). Можна запярэчыць, што вольны выбар існаваў не для ўсіх, але фармаваньне нацыянальнай мэнтальнасьці адбываецца далёка ня толькі ў „нізах“ грамадзтва. Ня буду даказваць, што права на вольны выбар ёсьць адным з фундамэнтальных для дэмакратыі. І ня будзе перабольшваньнем паўтарыць (бо пра гэта ўжо прызабыліся), што дэмакратыя сапраўды ёсьць у беларускай гістарычнай традыцыі, яна замацаваная і ў мэнтальнасьці нацыі, якая хаця й папсаваная моцна, але ня зьнішчаная пакуль цалкам.

Але менавіта права на выбар, а значыць, і астатніх правоў вольнай асобы не існавала ў суседняй Масковіі, якая пераняла палітычныя традыцыі татарскіх ханаў і бізантыйскіх правіцеляў. Гэтая дэспатычная традыцыя глыбока ўкаранілася за амаль тысячагодзьдзе ў мэнтальнасьці расіянаў, яна яскрава праявілася ў эпоху расейскага савецкага камунізму, яна пасьпяхова перажыла „перабудову“ і „галоснасьць“ і зноў расквітнела ў пуцінскай Расеі.

Гэтая нянавісьць да права людзей на свабоду выбару выявілася ў стаўленьні да выбару ўкраінскага народу, які ператварыўся ў „бандэраўцаў“ і „фашыстаў“, бо выбраў ня тое, чаго хацеў „старэйшы брат“. І тое, што абсалютная большасьць расейцаў падтрымала палітыку Пуціна ў дачыненьні да Ўкраіны, сьведчыць, што „непрыняцьцё свабоды“ — не часовае зацьменьне пад уплывам прапаганды, а частка расейскай мэнтальнасьці. Шкала каштоўнасьцяў і карціна сьвету збудаваныя гэтай мэнтальнасьцю і ствараюць так званы „русскій мір“.

Належнасьць да расейскай мовы, расейскай культуры і праваслаўя, дэкляраваныя сучаснымі ідэолягамі „русского міра“, неабходна дапоўніць грэблівым стаўленьнем да права на вольны выбар ды іншых правоў асобы, зьнявагай усяго, што

„русскім міром" не зьяўляецца. Дарэчы, за саветамі „русскій мір" функцыянаваў і без праваслаўя. Гэта, на маю думку, дказвае, што рэлігія (асабліва як сыстэма маральных прынцыпаў) для мэнтальнасьці „русского міра" ня ёсьць вызначальным фактарам. Пры канфліктнай сытуацыі ў сыстэме "русского міра" заўважаецца выразная тэндэнцыя да альтэрнатыўнай этыкі: усё, што наша, — добрае і правільнае, а ня наша — няправільнае. Гэта апраўдвае любую хлусьню і злачынствы ў імя „русского міра".

Такім чынам, падпарадкаваньне Расеі як крыніцы „русского міра" заўсёды спыняла ў Беларусі (ды іншых заходніх тэрыторыях імпэрыі) рух да свабоды і дэмакратыі, а існаваньне „ачагоў" „русского міра" ў сучасным беларускім грамадзтве — галоўная перашкода для любых дэмакратычных пераўтварэньняў, для спробаў дамагчыся свабодных выбараў, для пабудовы грамадзянскай супольнасьці etc.
Існаваньне незалежнай дэмакратычнай эўрапейскай Беларусі з „русскім міром" абсалютна несумяшчальнае.

Яшчэ раз падкрэсьлю: „русскій мір" стварае істотную пагрозу ня толькі ў сфэры мовы і культуры, але ўвогуле для фізычнага існаваньня беларускай дзяржавы і беларускай нацыі, якія зараз практычна ня маюць наладжаных мэханізмаў процідзеяньня нарастальнай экспансіі гэтай зьявы.

Носьбітам і агітатарам „русского міра" ў Беларусі апошнія 200 гадоў была ўлада. Ад царскіх уладаў гэтую традыцыю пасьпяхова пераанялі саветы, а потым і Лукашэнка. Ён збудаваў дзяржаўную і эканамічную сыстэму, цалкам залежную ад Расеі. Менавіта ягонае панаваньне адзначанае сыстэматычным разбурэньнем мовы й культуры, поўнай ліквідацыяй дэмакратычных інстытутаў, найперш свабодных выбараў, перасьледам палітычных праціўнікаў і іншадумцаў. Такім чынам Лукашэнка ўзараў глебу, у якую інтэнсіўна кладзецца зерне „русского міра". Ягоныя „плады" павінны канчаткова разбурыць усё, што зь ім не стасуецца.

Гэтая роля ўлады не зьмяняецца, нягледзячы на касмэтычныя павароты курсу ці хітрую рыторыку. Таму, калі мы не зьбіраемся пахаваць Беларусь падчас нашага жыцьця, мы непазьбежна ўступаем ва ўсё большы канфлікт з „русскім міром“, і, на маю думку, толькі грамадзтва, толькі супольныя высілкі розных сэктараў грамадзянскай супольнасьці здольныя стварыць „новы мур“ для абароны беларускай нацыі.

**Што можна рабіць?**

Першае — усё, каб захаваць наш „беларускі сьвет“ і яго сувязь з эўраатлянтычнай цывілізацыяй. Я ўпэўнены: няма трэцяга боку, трэцяга адмысловага „беларускага шляху“. Ці мы на Ўсходзе — ці мы на Захадзе. Астатняе — ад злога. І паняцьце Захаду зьмяняецца на нашых вачах. Эўропа з моцнай свабоднай Украінай — гэта ўжо іншая Эўропа. Гэта ў пэрспэктыве наша Эўропа, дзе краіны, якія ляжаць паміж Чорным і Балтыйскім морамі, фармуюць новы ўплывовы рэгіён.

Другое — трэба паступова выціскаць „русскій мір“ з нашай тэрыторыі, а найперш з нашай уласнай сьвядомасьці. Неабходна стварыць выразную мяжу паміж нашым і „русскім“. Трэба пазбавіць „русскій мір“ пажыўнага асяродзьдзя ў нашай краіне, зрабіць існаваньне яго некамфортным і, у рэшце рэшт, немагчымым. Паўтару — гэта і найбольш эфэктыўны шлях для вяртаньня ў Беларусь дэмакратычных інстытутаў улады. Калі пазбавіць кіслароду „русскій мір“, засохне і рэжым Лукашэнкі.

**Некалькі магчымых кірункаў для грамадзкай працы**

Для іх рэалізацыі не патрэбныя моцныя структуры і фінансаваньне. Кожны грамадзянін можа рабіць нешта разам з сябрамі ці нават проста сам.

## Інфармацыйная прастора

Нават не зьвяртаючыся да сацыялёгіі, можна канстатаваць: бальшыня жыхароў Беларусі атрымлівае інфармацыю з расейскіх ці афіцыйных беларускіх, то бок пралукашэнкаўскіх і прарасейскіх крыніцаў. Нам ня ўдасца перакрыць гэтыя каналы або прымусіць усіх чытаць толькі „Народную волю“ ці „Хартыю“, слухаць „Свабоду“ і глядзець „Белсат“. Але пачынаць трэба з таго, каб адкінуць кучу прарасейскага інфармацыйнага сьмецьця. Прапаганда зробленая так, што дзейнічае часта па-за сьвядомасьцю. Чым больш яе спажываеш, нават здаючы сабе справу з гэтага, тым больш губляеш арыентацыю. А на прапаганду „русского міра“ кідаюцца калясальныя сілы і сродкі. Зусім не абавязкова каштаваць дзярмо, каб пераканацца, што гэта дзярмо. Каб даведацца, што вакол адбываецца, разумнаму чалавеку цалкам дастаткова некалькіх дарэчных інфармацыйных сайтаў і трошкі здаровага сэнсу. А цалкам нэўтральнай і аб’ектыўнай інфармацыі ў сьвеце, які разьдзіраецца супярэчнасьцямі, не бывае.

Я за прэсу зь яснай і блізкай мне маральнай пазыцыяй. І ня бачу сэнсу ўжываць інфармацыйнае дзярмо ў любым выглядзе. Варта выкрэсьліваць са сваіх спасылак любую расейскую прапаганду, не засьмечваць галаву тэлеканаламі з фальшывымі „дыскусіямі“ і „аналітыкамі“. Згадайма трох будыйскіх малпачак, якія кажуць: „закрый вушы для зла, заплюшчы вочы для зла, захіні вусны для зла“.

Кожны можа абарваць вакол сябе інфармацыйныя шчупальцы „русского міра“ і, што галоўнае, — дапамагчы іншым ад іх пазбавіцца і атрымліваць здаровую інфармацыю. Нават адзін чалавек, які перайшоў на нармальныя інфармацыйныя каналы, — гэта яшчэ адзін патэнцыйна вольны чалавек.
Асаблівая тэма — сацыяльныя сеткі. Тут проста трэба браць прыклад з таго, што ўжо робяць ва Ўкраіне, — сыходзіць з расейскіх сетак. Не тусавацца з усімі гэтымі

„титушками“ і „каларадамі“ і не пастаўляць інфармацыю ФСБ і ГБ, а карыстацца хаця б заходнімі сеткамі ці ствараць альтэрнатыўныя, свае, беларускія. Пэўна ж, няпроста камусьці адарвацца ад звыклага павуціньня „одноклассников“ і „фконтактов“, але гэта неабходна.

## Культура і гісторыя

Культура, асабліва ў яе масавым варыянце, шмат у чым перасякаецца з мэдыямі. І тут мэтад такі самы: адключацца ад хваробатворнай „русскомірной“ культурнай індустрыі ва ўсіх яе праявах. Як культуроляг і мастацтвазнаўца паводле адукацыі скажу: у маскультуры шмат ня страціце, а толькі выйграеце. Чым замяніць? Напэўна, кожны сам пашукае для сябе. У Беларусі і ў вольным сьвеце можна знайсьці нямала якаснай культурнай прадукцыі, калі захацець.

А як жа „русская классика“? Вялікая руская літаратура, жывапіс, музыка... Рызыкну выказаць крамольную думку: яе значэньне для сусьветнай культуры наагул і для нашай, беларускай, у прыватнасьці, моцна перабольшанае. Ва ўсялякім разе, для жыхара Беларусі важней прачытаць „Новую зямлю“ Коласа ці „Пана Тадэвуша“ Міцкевіча, чым „Яўгенія Анегіна“.

Не прапаноўваю зусім адмовіцца ад спажываньня расейскай культуры, але прыярытэты трэба расстаўляць правільна.
Гісторыя. Не сакрэт, што гісторыя — гэта заўсёды трохі ідэалёгія. Расейская ж і савецкая гісторыя — ідэалёгія ў першую чаргу. А значыць, падтасоўваньне фактаў і проста хлусьня. Мы ўсе тут ведаем, што сёньня ў Беларусі дамінуе чужая і фальшывая канцэпцыя гісторыі. Вынікі гэтага — гістэрыя вакол „фашыстаў“ і „бандэраўцаў“, „георгіеўскія стужкі“, міты пра „брацкія народы“ і „вялікую перамогу“. Для нас гісторыя — гэта таксама лінія вагню. Трэба шукаць для сябе яе праўду і пазбаўляцца ад навязанай хлусьні для таго, каб дапамагчы і астатнім расплюшчыць вочы і не паддавацца „рускай хваробе“.

### Эканоміка

Эканамічна Беларусь з трыбухамі залежыць ад Расеі. Пазбавіцца ад гэтай залежнасьці цяжка, бо яе штучна стварае кіроўны рэжым як крыніцу свайго існаваньня. Але некаторыя крокі да гэтага можна і няцяжка рабіць кожнаму грамадзяніну. Ва Ўкраіне ўжо даўно пачалася кампанія „Не купляй расейскае“. Пасьля Майдану яна была падтрыманая некаторымі палітычнымі і грамадзкімі структурамі ў Беларусі, але пакуль так і ня выйшла з вузкага „актывісцкага“ кола. Але пашырэньне такой кампаніі праз сеткі й мэдыя нават захапляе: выяўляць расейскія брэнды, прапаноўваць замену на беларускія ці, напрыклад, украінскія.

Гэта цалкам у кантэксьце нават афіцыйных заклікаў „Купляйце беларускае!“ Пагатоў што, у бальшыні сваёй, расійскі тавар няякасны і нятанны. Калі адмова ад расейскай прадукцыі стане масавай, гэта адаб'ецца і на замовах ды зашкодзіць і без таго не квітнеючай расійскай эканоміцы, а нашу краіну зробіць хоць крыху, але менш залежнай ад апошняй.

### Мова і сымбалі

Урэшце, найважнейшае, без чаго немагчыма захаваць сваю ідэнтычнасьць і сваю незалежнасьць, а значыць, і сваю свабоду. Мова — падмурак нацыянальнай сьвядомасьці, інструмэнт для стварэньня карціны сьвету і матэрыял для тварэньня культуры. А калі менш патасу, то гэта мэханізм, з дапамогай якога свой аддзяляецца ад чужога. Можна карыстацца рознымі мовамі, ведаць іх шмат, але ўсё роўна ў эўрапейскай культурнай прасторы мова — найважнейшы сродак ідэнтыфікацыі. А для „русского міра“ мова — асноўная зброя экспансіі.
Менавіта абарона „рускамоўных“, а не грамадзян Расеі становіцца падставай для агрэсіі. Не абараніўшы беларускую мову, мы непазьбежна страцім ўсю краіну.

Нельга прымусіць чалавека лічыць роднаю мову, якую ён дрэнна ведае. Ня варта пазбаўляць людзей права карыстацца той мовай, якой ім зручна. Але ёсьць дзяржаўная мова, мова тытульнай нацыі і ёсьць абавязковыя сфэры яе прымяненьня. Гэта тычыцца кожнага. Як правілы вулічнага руху. Калі хочаш карыстацца правамі грамадзяніна — таксама дакажы, што ведаеш правілы.

Пра мову можна казаць шмат, але сёньня, мне здаецца, важна тое, што мова — гэта надзейны бар’ер для распаўсюджваньня „рускай хваробы“.

Тое ж пра нацыянальныя сымбалі. Не выпадкова Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, адзін зь першых udaraў нанёс па нацыянальных сымбалях. Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг — гэта ня толькі памяць аб справах продкаў, гэта знакі сёньняшняй незалежнасьці і свабоды. Менавіта таму яны выклікаюць такую нянавісьць у жандараў „русского міра“.

Патроху, крок за крокам, але ўпарта і беспаваротна мы павінны вяртаць у нашае жыцьцё мову і сымболіку. І тады пераносчык „рускай хваробы“, трапляючы ў нашае асяродзьдзе, у нашую краіну, будзе адчуваць сябе як каларадзкі жук у бочцы ґазы.

**Наш Крыжовы паход**

Кожны можа зрабіць штосьці на гэтых „франтах“, нешта дадаць, прыдумаць новае. Прасторы для гэтага нямерана. Колькі ўжо было прыдумана раней, і сёньня мы прапануем аднавіць, напрыклад, „Барані сваё!“. Ня трэба для гэтага вялікіх сродкаў і ня трэба чарговых паказальных грантавых „кампаніяў“.

Супрацьстаяньне „русскому міру“, „рускай хваробе“ — натуральны рух нармальных людзей. Гэта рух да свабоды, да дэмакратыі, да нармальнага жыцьця. Ня будзе ў нас ніякага разьвіцьця эканомікі ў цені „русского міра“, у „эўразійскіх

саюзах“. Ня будзе ў нас ані сапраўдных выбараў, ані новых прэзыдэнтаў, пакуль мы хворыя на „рускую хваробу“.

Для мяне гэта ня толькі натуральная місія грамадзянскай супольнасьці. Гэта свайго роду новы Крыжовы паход. Паход за права „людзьмі звацца“. Ці, як гэта было ў нас раней, — Пагоня!

**Алесь Бяляцкі**

# ПРАВА ЧАЛАВЕКА БЫЦЬ САБОЙ. МОЎНЫЯ ПРАВЫ

Праваабарончага матэрыялу на тэму моўных правоў я не рыхтаваў, а вырашыў падзяліцца сваімі назіраньнямі.

Давайце ўзгадаем 80-я гады, калі мы пачыналі адраджаць беларускую мову ў горадзе. Тады, калі ты размаўляў па-беларуску, цябе адразу запісвалі ў нацыяналісты і ставіліся варожа, бо мова была прыкметай антысавецкасьці і „няправільнай“ палітычнай арыентацыі. Нават выкладчыкі ў ВНУ называлі тых, хто адказвае па-беларуску, нацыяналістамі. Таму даводзілася змагацца за свае моўныя правы, за беларускую мову для сябе. І, зрэшты, гэта дало плён, бо ўжо ў другой палове 80-х сытуацыя зьмянілася.

У ЦК КПСС (бо гэта тады быў галоўны кіроўны орган) ішло шмат падпісаных грамадзянамі лістоў наконт захаваньня і разьвіцьця беларускай мовы, беларускай ідэнтычнасьці. Улады мусілі рэагаваць на гэтыя лісты, і таму такія акцыі ціску апынуліся пасьпяховымі. Яшчэ мы, безумоўна, заангажоўвалі новых і новых людзей у мову, прапагандавалі культуру і гісторыю.

Урэшце, у 1990 г. (яшчэ за савецкім часам) быў прыняты Закон аб мовах. Гэта быў вынік працы неабыякавых людзей — гісторыкаў, мастакоў, літаратараў — якія мелі доступ да ўладных структураў і лябіявалі закон пра беларускую мову. Гэты Закон быў добрым зачынам для пачатку беларусізацыі краіны і вяртаньня мовы. Згодна праграме беларусізацыі (якую пісаў Вінцук Вячорка з памочнікамі), дзяржава цягам 15 гадоў, да 2000 г., мусіла цалкам перайсьці на ўжываньне



беларускай мовы (і навучаньне, і праца дзяржаўных органаў). Мы асобна працавалі са СМІ: пісалі сотні лістоў у рэдакцыі радыё, тэлебачаньня, дзякуючы за праграмы на беларускай мове і прапануючы ствараць новыя. Гэта быў такі грамадзкі ціск за ўвядзеньне мовы ў СМІ.

У 1994 г., калі была прынятая Канстытуцыя, беларускай мове была нададзеная дзяржаўнасьць. Здавалася, палітычны выбар зроблены і шляху назад ня будзе. Было бачна, што калі беларусізацыя будзе працягвацца натуральным чынам, то калі не к 2000-му, то к 2015 году ўсе моўныя праблемы будуць вырашаныя, бо пасьпее сфармавацца цэлае пакаленьне беларускамоўных. На жаль, Канстытуцыя 1995 г. ураўняла статус расейскай і беларускай моваў.

Гэта прывяло да палітычнага выбару на карысьць расейскай мовы, на „ўсходні вэктар“. Пайшоў рэзкі адкат назад, беларуская мова амаль зьнікла з афіцыйнага дзяржаўнага ўжытку. І нават выпадкі, калі, напрыклад, замежныя амбасадары прамаўляюць на афіцыйных мерапрыемствах па-беларуску, у глябальным сэнсе нічога не зьмяняюць, бо палітыка русыфікацыі, якая вядзе да „рашчыненьня“ беларусаў у расейскім моры, працягваецца. Падзеі ва Ўкраіне яскрава прадэманстравалі, як хутка можна раскалоць краіну, калі арыентаваць паліытку на ўсходні вэктар.

Прыклад зоны, дзе я сядзеў: я заўважыў, што шмат маладзёнаў (гадоў 20-25) зь вялікіх абласных гарадоў, якія прыязна да мяне ставіліся, папросту не разумелі беларускую мову. Гэта было для мяне пэўным шокам. Калі тут, у Менску, ты маеш нейкае беларускае асяродзьдзе, і нават ходзячы ў крамы, па горадзе, усё ж не адчуваеш гэтага бар’еру неразуменьня, аж маладых людзей зь Берасьця, Гомеля, Магілёва беларуская мова проста „вырубае“, для іх гэта замежная мова.

У той жа час з заканадаўчага гледзішча ёсьць магчымасьць адстойваць свае моўныя правы. Дастаткова паглядзець тую ж Канстытуцыю, якая гарантуе выкарыстаньне беларускай мовы,

дастаткова паглядзець Закон аб мовах, Кодэкс аб адукацыі, Закон аб дзяржаўнай службе, Закон аб зваротах грамадзян і іншыя. Існуе адказнасьць за парушэньне твайго права на карыстаньне беларускай мовай, за зьнявагу беларускай мовы.
Такім чынам, я мяркую, нам трэба прааналізаваць досьвед сваёй працы, якую мы рабілі 25—30 гадоў таму, з улікам новай сытуацыі і актыўна вярнуцца — з падключэньнем максымальнай колькасьці грамадзкіх арганізацыяў — да пэўнага ціску на дзяржаўныя структуры з тым, каб беларуская мова мела большае значэньне.

Нам трэба старацца эфэктыўна выкарыстоўваць тыя магчымасьці заканадаўства, якія ёсьць, максымальную колькасьць грамадзкіх арганізацыяў незалежна ад таго, чым мы займаемся. Аднавіць тыя лёзунгі — дэмакратыя, правы чалавека, незалежнасьць, нацыянальна-культурнае адраджэньне. Што б мы ні рабілі — ці фарбуем лавачкі ў дварах, ці баронім правы чалавека — гэта ўсё мусіць глядзецца праз прызму беларускай ідэнтычнасьці, беларускай мовы, мацаваньня беларускай культуры.

Што да тлумачэньня сваёй пазыцыі за мяжой, то зараз сытуацыя не такая паганая, як была гадоў 5 ці 7 таму. Бо эўрапейцы, асабліва прадстаўнікі малых усходне- і цэнтральнаэўрапейскіх народаў, сапраўды зразумелі, якую пагрозу нясе паўзучая экспансія з Усходу, якая закладалася яшчэ ў царскай Расеі, працягвалася ў Савецкім Саюзе і зараз актыўна адрадзілася ў Расеі з матывацыяй захаваньня расейскай культурнай прасторы. Эўрапейцы зараз разумеюць, што ўсё гэта мае вялікі палітычны кантэкст. Што мы можам супрацьпаставіць гэтай экспансіі?

Адказ просты. Мы можам супрацьпаставіць толькі сваю беларускую ідэю, беларускую культуру, беларускую нацыянальную ідэнтычнасьць. І беларускую мову, якая нечакана займела вялікі палітычны кантэкст. Беларуская мова сёньня аўтаматычна ёсьць знакам эўрапейскасьці.

**Алена Анісім**

# ПАШЫРЭНЬНЕ СФЭРЫ ЎЖЫВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ЯК СКЛАДНІК АБАРОНЫ МОЎНЫХ ПРАВОЎ

Моўнае права можна лічыць забясьпечаным пры наяўнасьці некалькіх складнікаў.

Юрыдычны – адпаведныя заканадаўчыя акты, якія прапісваюць моўнае права і мэханізм яго забесьпячэньня.
Фактычны – наяўнасьць усіх неабходных інструмэнтаў для яго ажыцьцяўленьня ва ўсіх сфэрах, прыкладам, у сыстэме адукацыі, СМІ і г.д.

Калі разгледзець сытуацыю ў нашай краіне з гледзішча права беларускамоўнага грамадзяніна, то атрымліваецца наступная карціна. Юрыдычна ўсё нібыта нармальна, ёсьць Канстытуцыя, іншыя законы, якія дэкляруюць права на карыстаньне дзяржаўнай беларускай мовай. А вось што да фактычнага ажыцьцяўленьня, то тут мы маем справу з адсутнасьцю значнай колькасьці інструмэнтаў, якія павінна стварыць дзяржава, для яго практычнай рэалізацыі. Гэта тычыцца і сыстэмы адукацыі, і сфэры розных паслуг (банкаўскіх, побытавых, аб'ектаў гандлю і г. д.), дзе беларуская мова прысутнічае намінальна або цалкам ігнаруецца. У такіх варунках узьнікае неабходнасьць грамадзкага ўмяшаньня і прымяненьне разнастайных мэтадаў дзеля выпраўленьня сытуацыі.



Прывяду прыклады зь дзейнасьці Таварыства беларускай мовы.
У першую чаргу я маю на ўвазе накіраваньне лістоў да адпаведных структураў (дзяржаўных органаў улады, кіраўніцтва ўстановаў і да т. п.), у якіх зьвяртаецца ўвага на неабходнасьць забесьпячэньня

моўнага права грамадзян. Калі такія лісты ад арганізацыі ня маюць уздзеяньня, а ў адказ прыходзяць адпіскі, то цалкам апраўдана арганізаваць кампаніі збору подпісаў грамадзян па такой праблематыцы. У зьвязку з гэтым хачу прыгадаць такія пасьпяховыя кампаніі, як адхіленьне зьменаў у Закон аб назвах геаграфічных аб'ектаў, ужываньне беларускай лацінкі ў візуальным абліччы сталіцы і інш.

Справы як быццам лякальныя, але яны выклікалі значны грамадзкі розгалас, падчас якога выразна праявілася гуртаваньне грамадзтва на грунце безумоўна патрыятычнай пазыцыі.

Аднак часта бывае і так, што ажыцьцяўленьне моўнага права прыпыняецца, а то і робіцца немагчымым з прычыны адсутнасьці беларускамоўнай версіі. І ў такім выпадку ціск на адпаведныя органы, як правіла, вынікаў не дае.

Нагадаю, як гэта было, прыкладам, з Правіламі дарожнага руху. На ўсе нашы лісты ў розныя адказныя дзяржаўныя ўстановы быў адказ, што ёсьць вэрсія Правілаў на беларускай мове на сайце pravo.by і гэтага дастаткова. Рабіць жа папяровае выданьне ніхто не зьбіраўся. Наша арганізацыя ўзяла на сябе абавязак падрыхтаваць перакладны варыянт Правілаў дарожнага руху на беларускай мове, узгадніць яго з Нацыянальнай акадэміяй навук і дабіцца магчымасьці выдаць дзеля практычнага выкарыстаньня. Трэба сказаць, што такая праца была зроблена, мы маем першыя выдадзеныя ў незалежнай Беларусі Правілы дарожнага руху на беларускай мове.

Распачатая справа мела працяг, нашу ініцыятыву падтрымала прыватная кампанія, якая размясьціла на сваім сайце pdd.by электронную вэрсію ПДР на беларускай мове і падтрымлівае яе ў актуальным стане, г. зн. адразу ўносіць зьмены, якія зьяўляюцца ў Правілах. Акрамя таго, супольна з гэтай кампаніяй быў падрыхтаваны дыск з заданьнямі для падрыхтоўкі і здачы экзамэну з вэрсіяй на беларускай мове на права кіраваньня аўтамабілем катэгорыі „B“. Такім чынам, не дачакаўшыся ад

дзяржаўных органаў неабходных крокаў, грамадзкасьць сама робіць што ў яе сілах, каб запоўніць прагалы моўнага права. Дзякуючы такім высілкам мы можам сказаць, што сёньня кожны ахвотны можа скарыстацца зробленым, каб навучацца і атрымліваць правы катэгорыі „В“ на беларускай мове, паколькі аўташколы маюць навучальныя дыскі з задачамі і на беларускай мове. Але застаецца нявырашаным да канца пытаньнем тое, што да сёньняшняга дня Дзяржаўтаінспэкцыя не ўвяла ў практыку здачы экзамэну выкарыстаньне падрыхтаваных задач на беларускай мове. І таму мы трымаем гэта пытаньне пад сваім кантролем.

Хачу таксама зьвярнуць увагу і на наш цяперашні клопат: выданьне тэстаў па беларускай мове як замежнай для стварэньня Міжнароднага сэртыфікату беларускай мовы. Ужо выйшлі кнігі па трох узроўнях, астатнія тры знаходзяцца ў выдавецтве. Завяршэньне гэтай справы запатрабуе значных намаганьняў, але і дазволіць вывесьці беларускую мову на міжнародны ўзровень.

Абагульняючы, хачу зазначыць, што ў любым грамадзтве права грамадзян падмацоўваецца іх воляй і жаданьнем спраўдзіць гэтае права. У нашай сытуацыі гэта можа быць і патрабаваньне, і ціск праз кампаніі подпісаў. А таксама любое дзеяньне, накіраванае на пашырэньне сфэры ўжываньня беларускай мовы, пераклады розных прадуктаў — твораў сусьветнай літаратуры, кіно, праграм для дзяцей — заснаваньне і выданьне СМІ на беларускай мове, стварэньне кінасцэнароў і інш. Асабліва важна, каб беларуская мова мела пашырэньне ў інавацыйных праграмах. Бо, на маю думку, зьяўленьне такіх рэчаў прыцягвае ўвагу, актывізуе грамадзтва і спрыяе больш поўнаму забесьпячэньню моўнага права.

**Пётра Садоўскі**

# НАШ СУВЭРЭНІТЭТ ВЫРАТУЕ ТОЛЬКІ НАЦЫЯТВОРЧАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

## Трывожны балянс як ніколі

Гістарычна-геаграфічныя фактары мінулага часу (недафармаваная нацыянальная ідэнтычнасьць), доўгатэрміновыя актуальныя тэндэнцыі (агульная глябалізацыя + расейская эканамічная экспансія), ломка „хэльсінскага эўраўладкаваньня“ праз рэанімацыю імпэрскага тэрытарыяльнага экспансіянізму пуцінскай Расеі (каўкаская кампанія бліцкрыгу і вайна ва Ўкраіне), „стабільнасьць“ рэжыму ў Беларусі за кошт часовых расейскіх фінансава-эканамічных прэфэрэнцый і зьбядненьня большасьці насельніцтва (рубель патаньнеў у тры разы за 10 гадоў, цэны на сацыяльна значныя тавары вырасьлі шматкроць, „сярэдні заробак прыватнікаў“ падлічваецца без уліку выдаткаў на сам бізнэс), абсалютнае панаваньне расейскіх і расейскамоўных тутэйшых СМІ, „судовае“ і фізычнае падаўленьне іншадумства прарасейскім дыктатарскім рэжымам выклікаюць здранцьвеньне і мутацыю прыхільнікаў супраціву.

У краіне фактычна зьнішчаная сыстэма нацыянальнай адукацыі, што не дае нам права называцца сувэрэннай дзяржавай паводле крытэраў вызначэньня „мадэрнай нацыі”. Адыход з жыцьця прадстаўнікоў пакаленьня, якое спрычынілася да нацыянальна-вызвольнага руху мінулага стагодзьдзя і сёньняшняга часу, спараджае страту эмацыйна-культурнай памяці, якая вынікала з жывой дзейнасьці адраджэнцаў, што валодалі нескалечаным родным



словам. Не без уплыву расейскай агентуры ў новых лібэральных салёнах беларускіх „інтэлектуалаў“ (часам і беларускамоўных) усё часьцей і нахабней чуюцца галасы прыхільнікаў Беларусі безь беларускай мовы, гісторыі, культуры, нацыянальнага патрыятызму. Гэта, на думку асьвечаных сучасных мысьляроў, зьбліжае нас з постнацыянальнай Эўропай і мацуе „грамадзянскую“ дзяржаву.

Трацяцца грамадзкія арыентыры, нацыянальна-дзяржаўныя інтарэсы і г.зв. нацыянальныя эгаізмы, безь якіх немагчымае існаваньне краіны ў сёньняшнім глябалізаваным сьвеце.

## Да каго апэляваць і што рэальна можна зрабіць?

Украінская вайна значна зьмяніла экзыстэнцыйны падыход да жыцьцёвага выбару сярэдняга беларуса (Эўразьвяз — Расея — „фінляндызацыя“). Паводле двухгадовых расейскіх маніторынгаў перад крымскай кампаніяй (неафіцыйныя зьвесткі з расейскамоўных, польскіх і нямецкіх форумаў) беларуская грамадзянская супольнасьць у фармаце абароны сувэрэнітэту (у параўнаньні з украінскай) фактычна адсутнічае. У выпадку расейскага ўварваньня да 70% насельніцтва РБ дзейсна не рэагавала б ніяк (вэрбальныя заявы не ў разьлік), 27% — былі б гарачымі прыхільнікамі канчатковага яднаньня. Толькі 3% былі б гатовыя да фізычнага супраціву, апэлюючы да цывілізаванага сьвету. Ва Ўкраіне гэтыя лічбы іншыя: рэакцыя нэўтральнага чаканьня — 26%, прарасейская грамада — 30%, 44% — дзейныя супраціўленцы (сярод іх нацыяналы і прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнэсу). Дадзеныя службаў ГРУ з розных краін афіцыйна невядомыя.

Да каго апэляваць? Да 70% чакальнікаў? Да 3% магчымых супраціўленцаў? Баюся паказацца непатрыётам: ніякі імгненны мазгавы штурм і новая хваля звароту да суродзічаў і да Захаду (ён ужо ў выпадку з Украінай паказаў твар „рэальнай“ палітыкі) не дапаможа.

Трэба рабіць усё, што рабілася праціўнікамі рэжыму раней, толькі лепш, бліжэй да жыцьця, ня надта захапляючыся так званымі фокуснымі групамі. Некалі мне даводзілася пісаць пра неабходнасьць „муніцыпалізацыі” апазыцыйнай дзейнасьці. Здаецца, на форуме „Народны журналіст“.

Ня трэба баяцца быць старамодным і пераймацца пераважна інтэрактыўнымі пэрформансамі.

а) Не стамляючыся (гэта прапаганда) даводзіць грамадзтву памылковасьць (бо немагчыма паводле жыцьця) так званай палітыкі інтэграцыі з Расеяй, асабліва ў эпоху глябалізацыі. Розныя памеры тэрыторыяў і колькасьці насельніцтва, розная якасьць прыродных рэсурсаў, розная структура эканомік. Пра гістарычную калянізацыю (ці акупацыю), розную мэнтальнасьць ды эўрапейска-азіяцкія традыцыі партнэраў гаварыць з падрыхтаванай аўдыторыяй. У гэтай жа аўдыторыі трэба тлумачыць розную прыроду „рускага міру“ і беларускага сьвету. Міна запаволенага дзеяньня тут — так званая блізкароднаснасьць ды ідэя так званага дзьвюхмоўя.

б) Незалежным грамадзкім ініцыятывам перайсьці ад часта рамантычных праваабарончых акцыяў да вельмі канкрэтных справаў. Рыхтаваць юрыстаў-экспэртаў у гаспадарчых справах, так бы мовіць, і з нацыянальным ухілам (купля, арэнда, продаж замежным грамадзянам нерухомасьці, зямлі і г. д. ). Такіх экспэртаў фактычна ня маюць ані праваабарончыя арганізацыі, ані партыі, ані іншыя грамадзянскія незалежныя ініцыятывы, ані вядомыя нам незалежныя прафсаюзы.

Мог бы падзяліцца досьведам, калі прыходзілася з сваёй уласнай ініцыятывы дапамагаць жыхарам суседзкага кварталу пры зносе іхнага прыватнага жытла, дзе ўжо будаваліся харомы для расейскіх грамадзянаў. Правядзіце экспэрымэнт: запытайцеся ва ўладальніка прыватызаванай дачы ў каапэратыве, ці захаваецца за ім права прыватнай уласнасьці на дзялку, калі ён выйдзе з каапэратыву? Што кажа пра гэта наш беларускі Закон аб зямлі?

Ці маюць улады права абвясьціць пасёлак гарадзкой зонай, не стварыўшы там адпаведную інфраструктуру? Што напісана пра гэта ў адпаведных законах? Зрэшты, запытайцеся ў грамадзкага актывіста, колькі літраў вады ў адным кубічным мэтры і колькі літраў спажывае ягоная сям'я... Ня кожны адкажа.

в) Каля ¾ нашага насельніцтва толькі выжывае. Тут вялікі патэнцыял для абуджэньня. Праз штодзённыя праблемы. Людзі павінны зразумець, што яны жывуць так у краіне, якая ўжо 20 гадоў знаходзіцца ў цесным саюзе з „братняй“ Расеяй, якая паступова прыбірае да сваіх рук нашу зямлю, вёскі, лясы. Не было ў нас абуджальнай аналітыкі, дакладней, кампаніяў у незалежных СМІ. Спашлюся на свой досьвед. Колькі часу таму напісаў я ў "Народнай волі" артыкул „Зямля тутэйшых“, дзе спрабаваў прааналізаваць лёсавызначальныя для большасьці нашага насельніцтва падзеі эканамічнага жыцьця: акцыянаваньне, прыватызацыю прадпрыемстваў (на прыкладзе мотавелазаводу), Закон аб зямлі, практыку яго прымяненьня на сёньняшні дзень. Усе гэта адбываецца фактычна пры маўчаньні СМІ.

У артыкуле я паспрабаваў зрабіць прагноз наконт магчымай гвалтоўнай зьмены статусу дачных кааперэратываў, пераводу іх у так званыя прыгарадныя паселішчы, як гэта ўжо рабілася каля вялікіх гарадоў у Расеі. І гэта ўжо адбываецца. Гэта закране дзясяткі тысячаў уладальнікаў невялікіх прыватызаваных надзелаў у радыюсе 20—50 км вакол большых і меншых гарадоў. Перамер зямлі (прапануецца за кошт уладальнікаў), падвышэньне платы за зямлю (з той нагоды, што іхная зямля цяпер дарагая, а яны — багатыя людзі). Гэтая кампанія закончыцца продажам участкаў пэнсіянэраў за бясцэнак сваім нуварышам ды расейскім багацеям. Патрэбныя папераджальныя кампаніі ў СМІ. Тут сыходзяцца інтарэсы розных узроўняў: дзяржаве і гораду — атрымаць дармавыя грошы, раёну — падвысіць свой статус, багатым — скупіць землі, якія абавязкова прададуць небаракі праз непасільныя падаткі.

Аналітычнага дасьледаваньня патрабуюць праблемы аплаты паслугаў ЖЭС, кошту праезду на грамадзкім транспарце, мэдыцынскіх паслугаў, платы за навучаньне ў ВНУ, маёмасьці грамадзянаў Расеі ў Беларусі, здачы ў арэнду лясных масіваў нерэзыдэнтам, крэдытна-дэпазытных апэрацыяў нашых банкаў з улікам іх уласнага капіталу і г.д.

Незалежная аналітычна-журналісцкая супольнасьць павінна быць салідарнай і не супернічаць: „хто першы ўзьняў тэму?“ Падтрымліваць, па-сяброўску спасылацца на папярэднікаў. Можна заклікаць ня слухаць расейскую папсу, не глядзець расейскія каналы, не хадзіць на рэпрызы пасрэдных расейскіх тэатральных зорак. Такое дасьць значны вынік у кансалідаваным грамадзтве. У нас немагчымы ані расейскі патрыятычны 80-працэнтны ўгар (перайменаваць украінскі боршч!), ані „хрысьціянскі джыхад“, бо рэлігійнасьць нашай грамады — як робіць начальства. Дзейнічае толькі там, дзе капае за каўнер ці клюе певень у патыліцу.

Нацыятворчая дзейнасьць — ня толькі патрыятычныя гутаркі і вечарыны-выставы. І ня толькі шэдэўры мастацтва. Яна яшчэ — у шэрай будзённай працы, якая кранае і не „нацыянала“.

**Тамара Мацкевіч**

# АДУКАЦЫЯ І ФАРМАВАНЬНЕ КАШТОЎНАСЬЦЯЎ ПАКАЛЕНЬНЯ

Любая адукацыя мае тры складнікі: веды, кампэтэнцыі (г. зн. уменьне і асэнсаванае жаданьне карыстацца ведамі) і каштоўнасьці. Калі губляецца хаця б адзін са складнікаў, атрымліваецца нетрывалая канструкцыя. Адукацыя без актыўнай каштоўнаснай пазыцыі не прыносіць карысьці ані дзяржаве, ані грамадзтву, ані самому яе атрымальніку. У эўрапейскіх дакумэнтах нават прапісаная каштоўнасная пазыцыя, якую павінен фармаваць настаўнік, у кожным прадмеце. Прыкладам, у матэматыцы гэта жаданьне даведацца праўду. У дадатак да агульнаэўрапейскіх кожная краіна дафармоўвае свае патрабаваньні да адукацыі, каб яна фармавала грамадзян менавіта гэтай краіны. Бо адукацыя — гэта ня сфэра паслугаў, а сродак умацаваньня дзяржавы, забесьпячэньня яе дабрабыту, перадачы новаму пакаленьню культурнай спадчыны.

Беларуская адукацыя разьвіваецца ўсьляпую — і як вынік мы маем цэлае пакаленьне, сфармаванае пры рэжыме Лукашэнкі, якое атрымала і дагэтуль атрымлівае адукацыю, не арыентуючыся на рэалізацыю ў сваім грамадзтве, не атаясамліваючы свае посьпехі з посьпехамі краіны. Яны адрозьніваюцца ад сваіх аднагодкаў у іншым сьвеце, бо ня ведаюць, навошта вучацца, ня ўмеюць цаніць свой час, не скіраваныя на дасягненьні, даўжэй за іншых адцягваюць пераход у дарослае жыцьцё.



Паводле дадзеных лябараторыі аксіямэтрычных дасьледаваньняў НОВАК, толькі частка беларускай моладзі спадзяецца на сябе і выводзіць свой посьпех з уласных высілкаў, а другая, якая складае 30%, спадзяецца

на дзяржаву. Сьведчаньнем нэгатыўнай для дзяржавы тэндэнцыі ёсьць і тое, што працэнт патэнцыйных эмігрантаў сярод моладзі складае прыкладна 40%, а таксама наяўнасьць у маладых беларусаў вялікага сьледу савецкага мысьленьня.

Важнасьць нацыянальна арыентаванай грамадзянскай адукацыі паказалі ўкраінскія падзеі. Украіна не пасьпела за 23 гады незалежнасьці дафармаваць нацыю — вялікая колькасьць людзей старэйшага веку мае савецкія стэрэатыпы.

Пакаленьне, якое вырасла на новых падручніках, цяпер мае ня больш за 25—27 год. Яно яшчэ недастаткова моцнае, не дарасло да ўзросту прыняцьця рашэньняў, ня стала „дэсіжн-мэйкерамі“. Таму Ўкраіна прайграла Расеі спачатку інфармацыйную вайну, за якой пачалася сапраўдная. Узгадайце, як у Крыме школьнікі ўсіх нацыянальнасьцяў дэманстратыўна прыходзяць на школьную лінейку ў вышыванках, а кадэты адмаўляюцца прысягаць чужой для іх дзяржаве і замест расейскага гімну зацягваюць свой украінскі.

Небясьпека ў Беларусі нашмат большая. Нашая адукацыйная сыстэма нават не спрабавала абапірацца на сапраўдныя нацыянальныя каштоўнасьці, якія б маглі фармаваць нацыю. Ідэалёгія, навязаная зьверху, не ўспрымаецца сур’ёзна маладым пакаленьнем, а рамантызм і псэўдапатрыятызм, які ствараецца вакол вайны і савецкага мінулага, толькі дэзарыентуе моладзь. У выніку найбольшы ўплыў цяпер маюць расейскія СМІ, у якіх няма канкурэнцыі ў беларускай інфармацыйнай прасторы.

Грубая прапаганда з аднолькавай лёгкасьцю запіхваецца як у старыя, так і ў маладыя галовы. Лукашэнкаўскія ідэолягі спачатку зачысьцілі інфармацыйную і адукацыйную прастору ад інтэлектуалаў і любых людзей з уласнай думкай. І ў выніку прайгралі ў барацьбе за свой электарат, які лёгка разьвярнуўся ў расейскі бок. Лукашэнка для большасьці зь іх — мінулы этап. Яны прагнуць больш моцнай рукі.

## Высновы

1) Каштоўнасным складнікам адукацыі павінна быць абуджэньне і падтрыманьне тоеснасьці (можа нават з індактрынацыяй), каб кожны беларус усьвядоміў, што Беларусь — гэта геаграфічная, гістарычная і культурная частка Эўропы, штучна адсунутая ў бок ад працэсаў, што там адбываюцца.

Для вяртаньня Беларусі ў сваю цывілізацыйную нішу найпершай задачай адукацыі ў нашай краіне павінна быць фармаваньне мадэрнай беларускай нацыі — гэта падмурак для будаваньня эўрапейскай дзяржавы. Ня выканаўшы гэтую задачу, цяжка быць інтэграванымі ў сучасную эўрапейскую адукацыйную і культурную прастору, дзе постнацыянальныя грамадзтвы вырашаюць задачы наступнага ўзроўню.

2) У адукацыі спосаб бараніць сваё толькі адзін — зрабі лепш! Адукацыя — ужо не манаполія дзяржавы, бо мала хто спадзяецца ў школе атрымаць якасныя веды. Адукацыя выходзіць у нефармальную сфэру: курсы, рэпэтытарства, праграмы для прафэсійных групаў, дыстанцыйнае навучаньне, самаадукацыя. Трэба выгульваць на гэтым полі, рабіць усё больш якасна і несьці свае каштоўнасьці.

3) Трэба мець сваю піраміду Маслоў, якую ніхто б ня мог аспрэчыць. Мы павінны ведаць, што для нас самае галоўнае, калі стаіць пытаньне выжываньня нацыі ды існаваньня краіны. Трэба не распыляцца на модныя тэмы: гурткі чаяпіцьця, фітнэс-шмітнэс адкласьці на потым, прынамсі пасьля мэдыяадукацыі. Трэба ўсьведамляць, што гендэрныя праблемы ніяк ня вырашыш, пакуль ня вырашацца агульначалавечыя. Калі правоў ніхто ня мае, то іх немагчыма адваяваць для жанчын.

4) Трэба быць больш разборлівымі і актыўнымі. Ня ўвязвацца ў чужыя праекты, у каштоўнасных арыентырах якіх маем сумнеў. Выяўляць ваўкоў у авечых шкурах, якія пад выглядам адукацыйных праграмаў, накіраваных на дэмакратыю і

ядналньне грамадзтва на каштоўнаснай аснове, маюць свае інтарэсы.

На жаль, сёньня шмат арганізацыяў, якія займаліся грамадзянскай адукацыяй, пераключыліся на што заўгодна — прапануюць арганізацыйнае разьвіцьцё, стандартызацыю, трэнінгі асабістага росту (ці наўпрост хобі). Усё гэта падаецца як грамадзянская адукацыя.
Больш за тое, некаторыя антыбеларускія праекты робяцца рукамі таленавітых беларусаў, якія проста не разабраліся ў сапраўдных мэтах такіх праектаў.

5) Ствараць каштоўнасныя пасылы грамадзтву і самім ім адпавядаць. Вось некаторыя зь іх: „Мы не нагэтулькі бедныя, каб быць эмігрантамі ў першым пакаленьні“, „Усё добра, што робіцца ў Беларусі“, „Беларусы — гэта нармальная моцная нацыя! “, „Беларусь — гэта Эўропа“, „Адукацыйныя ўстановы ў выгнаньні — гэта ня школа для эміграцыі“…

**Валер Булгакаў**

## ЗМАГАНЬНЕ ЗА БЕЛАРУСКАСЬЦЬ: ВЫНІКІ ДЗЕЙНАСЬЦІ КУЛЬТУРНІЦКІХ НДА

Пачну з таго, што крыху распавяду пра праекты, якімі мы цяпер займаемся. Мы рыхтуем зборнік аналітычных тэкстаў пра грамадзянскую супольнасьць Беларусі апошніх 10–15 гадоў. Гэта будзе ці асобны нумар ARCHE, ці дадатак да яго. Таксама плянуецца выдаць ангельскамоўную вэрсію – хутчэй за ўсё, у Варшаве. Калі ў каго ёсьць цікавасьць да гэтага праекту, магу падзяліцца чарнавым варыянтам кнігі. Спадзяюся, што яна выйдзе ў першым квартале 2015 г. Яшчэ раз падкрэсьлю, што вялікі плюс кнігі ў тым, што яна будзе надрукаваная як па-беларуску, так і па-ангельску і будзе актыўна прэзэнтавацца заходняй супольнасьці, якая зацікаўленая беларускімі справамі. Што да змаганьня за беларускасьць, то гэтая тэма моцна зьвязаная з нашай кнігай. Мы доўга думалі, які сэмантычны зьмест укласьці ў нашую кнігу, і вырашылі, што асноўнымі матывамі мусяць быць культурніцкае змаганьне й дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў.

Я хутчэй належу да лягеру пэсымістаў – да тых, хто лічыць, што сучасная беларуская дзяржава ў сваіх праявах блякуе беларускае нацыятварэньне. Дзяржава прымушае грамадзянскую супольнасьць рэагаваць на свае дзеяньні, накіраваныя перш за ўсё на кансэрвацыю савецкай спадчыны – у адрозьненьне ад іншых усходнеэўрапейскіх краінаў, як Літва, Польшча…



Вось чым, прыкладам, адрозьніваюцца міністэрствы культуры Беларусі і Польшчы? Напрыклад, тым, што Міністэрства культуры Беларусі ёсьць своеасаблівай галіновай канторай, якая абслугоўвае сетку бібліятэк, дамоў культуры і якая вельмі

залежыць ад палітычнага кантэксту ў краіне. Міністэрства ж культуры Польшчы — гэта інстытуцыя, якая выдае гранты, актыўна падтрымлівае кнігавыданьне… Больш за тое, яно падтрымлівае дзясяткі і сотні кніг штогод, ствараючы для гэтага адпаведныя інстытуцыі, як, напрыклад, Інстытут кнігі ў Кракаве, які займаецца фінансаваньнем кнігавыданьня і распаўсюдам кніг, цэнтралізаванай закупкай кніг бібліятэкамі. А ў Беларусі мы знаходзімся ў стане халоднай вайны, калі дзяржава робіць усё, каб перашкаджаць фармаваньню нацыянальнай ідэнтычнасьці. Карыстаючыся тэрмінам нябожчыка Віталя Сіліцкага, у нас пануе так званы „прэвэнтыўны аўтарытарызм“.

Ёсьць шмат працаў на тэму нацыятварэньня, у тых жа немцаў, прыкладам. Адзін немец, Гэрхард Зыман, калі не памыляюся, слушна напісаў, што нацыятварэньне — гэта шлях, поўны небясьпекаў, але гэта адзіны шлях да эўрапейскай дэмакратычнай супольнасьці. Абсурд беларускіх рэаліяў у тым, што мы дагэтуль мусім даводзіць слушнасьць гэтага сьцьверджаньня нашым апанэнтам, у той час як яно — непарушная ісьціна для заходніх супольнасьцяў ужо цягам 20—30 гадоў.

Цяпер возьмем Літву, каб паглядзець, чым яна адрозьніваецца ад Беларусі з гледзішча акадэмічнай супольнасьці. У Літве ёсьць моцныя навуковыя фундацыі, напрыклад, Літоўская навуковая рада, якія фінансуюць бягучыя навуковыя дасьледаваньні, прычым робяць гэта безуважна да палітычнай каньюнктуры. Больш за тое, літоўскія гісторыкі ды іншыя гуманітары маюць магчымасьць зьвяртацца па фінансаваньне сваёй навуковай дзейнасьці ў шматлікія іншыя фундацыі ў межах Эўразьвязу. Беларускія ж навукоўцы шукаюць шляхі да эўрапейскага фінансаваньня, прыкладам, праз афіліяцыю з Ковенскім унівэрсытэтам, або рэгіструюць свае НДА ў Літве ці Польшчы. Гэта ўжо адзін з выпрабаваных шляхоў дзейнасьці.
У сытуацыі, калі дзяржава ня толькі спрабуе ўтрымліваць уладу — у тым ліку незаконнымі дзеяньнямі, як, напрыклад, фальсыфікацыя выбараў, — а яшчэ і спрабуе мадэляваць

і перайначваць нацыянальную ідэнтычнасьць так, як яна хоча, у культурніцкай сфэры de facto існуе стан халоднае вайны. Прынамсі, нас часта ўспрымаюць ня як партнэраў, а як праціўнікаў. Хаця, зь іншага боку, прастора дзейнасьці ў культурніцкай сфэры, на мой погляд, значна шырэйшая за прастору дзеяньняў у сфэры палітычнай. Гэта стварае пэўныя магчымасьці для дзейнасьці культурніцкіх НДА.

У заканчэньне сваёй прэзэнтацыі я хацеў бы сказаць, што нацыятварэньне і ідэнтычнасьць – гэта ня толькі сьвяткаваньне юбілею Аршанскай бітвы, сустрэча зь беларускімі пісьменьнікамі ў рэгіёнах, нейкая кампанія падтрымкі беларускай мовы. Калі мы чытаем „Камсамольскую праўду“ з тэрміналёгіяй кшталту „карацелі захапілі“ – гэта таксама пэўнае нацыятварэньне, калі намаганьнямі расейскіх спэцслужбаў беларус на ўзроўні сваёй мэнтальнасьці далучаецца да гэтак званага „рускага сьвету“ і на ўзроўні мэнтальнасьці мала адрозьніваецца ад жыхароў Смаленшчыны або Браншчыны. Я ўчора меў сустрэчу зь Сяргеем Астанковічам, ён жыве ў Крычаве – гэта 15 км ад мяжы з Расеяй. Ён кажа, што ў іх усе машыны абвешаныя гэтымі „георгіеўскімі стужачкамі“.

Мы прайграем змаганьне за ідэнтычнасьць. Нягледзячы на аптымістычныя заявы, што ўсё ў нас добра (маўляў, сайт „Нашай Нівы“ наведваюць 25 тысячаў), калі браць рэальную Беларусь, робіцца відавочна, што мэнтальнасьць шараговага беларуса кантралюецца гэным „рускім сьветам“. Аднак гэта не фатальны і не непазьбежны рух падзеяў. Мэнтальнасьць людзей мяняецца, і проста трэба шукаць адпаведныя часу тэхналёгіі, каб гэтыя зьмены ў ідэнтычнасьці нашых людзей рабіліся яркімі і, па магчымасьці, незваротнымі.

**Ірына Лаўроўская**

# БЕЛАРУСКАЯ ІДЭНТЫЧНАСЬЦЬ І ЎРБАНІСТЫЧНЫ ЛЯНДШАФТ

Урбаністычная прастора, якая няспынна зьмяняецца пад узьдзеяньнем дзейнасьці чалавека, будуе, павязвае, умацоўвае прыналежнасьць да пэўнай культуры. Зьнішчэньне такой прасторы альбо падмена ў ёй сыстэмы знакаў-сымбаляў, дамінантаў прыводзіць да зману альбо страты ідэнтычнасьці, парушае паміжчасовую сувязь пакаленьняў.

## Прастора беларускай ідэнтычнасьці

Прастора, у якой фармуецца беларуская ідэнтычнасьць, перакрочвае сучасныя межы краіны. Калі мы прамаўляем “Літва”, “Украіна”, “Польшча”, альбо бярэм яшчэ шырэй – “Эўропа”, у нашай гістарычнай памяці абуджаецца калейдаскоп з родных сымбаляў, відаў, ляндшафтаў, гарадоў, сілуэтаў, асобаў. Атаясамленьне сябе з гэтай прасторай натуральна для беларусаў, бо менавіта ў ёй сфармавалася наша культура. Уяўляючы “сваю прастору”, асьвечаны беларус зь лёгкасьцю сягае імёнаў і знакаў, мясьцінаў суседніх краінаў, дзе з павагай ставяцца да агульнай для нашых народаў спадчыны. Таму з жалем мусім канстатаваць, што Беларусь страчвае ідэнтычнасьць. Пазбаўленая сваіх дамінантаў, знакаў яна ўспрымаецца мноствам нашых суайчыннікаў ды зацікаўленымі дэвэлапэрамі як тэрыторыя, як танны нерухомы тавар, без абцяжарваньня абавязкамі ў стасунку да гісторыка-культурнай спадчыны “абарыгенаў”.



## Тэрыторыя

Згодна з 9 артыкулам Канстытуцыі тэрыторыя Беларусі зьяўляецца

натуральнай умовай існаваньня і прасторавай мяжой самавызначэньня народу, асновай яго дабрабыту і сувэрэнітэту. Сучасная тэрытарыяльная палітыка дзяржавы дэградуе і вядзе да парушэньня асноўных правоў грамадзянаў Беларусі на ўласнасьць і недатыкальнасьць. У апошнія гады пад уплывам расейскіх эмісараў (дэвэлапэраў і “інвэстараў”) у заканадаўства і генэральныя пляны гарадоў Беларусі былі ўнесеныя праўкі, якія ня толькі стварылі магчымасьці для гандлю тэрыторыяй Беларусі оптам і ў розніцу, але, ва ўмовах непразрыстасьці й скарумпаванасьці ўсіх галінаў улады, стварылі перадумовы зьнішчэньня сувэрнітэту Беларусі.

**Нэа-Фэадалізацыя**

У XVIII стагодзьдзі Рэч Паспалітая была гвалтоўна разарваная на часткі трыма заборыстымі краінамі-суседкамі, а папярэднічала гэтаму шчодрая “раздача” дзяржаўных земляў малым і вялікім фэадалам. Беларускае чынавенства, не засвоіўшы ўрокі мінулага, у XXI стагодзьдзі ідзе тым жа шляхам. Наша дзяржава пазбаўляе сваіх грамадзянаў “умоваў і падставаў свайго дабрабыту”, то бок тэрыторыі. Насуперак здароваму глузду, шматлікія расейскія “інвэстары” атрымліваюць тэрыторыі былых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, гарадзкіх гістарычных цэнтраў, пойменныя тэрыторыі рэк, лясныя масівы, вадаёмы. Апрача таго, яны лябіююць і атрымліваюць дазвол для прызначэньня на прыдбанных тэрыторыях інстытуту “зьнешняга кіраўніка” (чытай нэа-фэадала).

Новы від фэадалізму дэманструецца ў гістарычных гарадах, калі “інвэстарам” пад забудову аддаюцца тэрыторыі разам з уладальнікамі – грамадзянамі Беларусі, ды іхняй прыватнай маёмасьцю. Замежны “інвэстар”, які найчасьцей толькі пасярэднік, атрымлівае ільготы, а грамадзяне масава страчваюць маёмасьць, перасяляюцца ў сацыяльнае жыльлё, абцяжарваюцца неспадзяванымі крэдытамі.

## Genius loci

Сьцеражэ і гадуе беларускую ідэнтычнасьць наш genius loci альбо “дух месца”. Які ён у Беларусі? Зь пераканаўчасьцю можна сказаць, што ён — сутнасьць тысячагадовага Берасьця. Невыпадкова сёньня Берасьце церпіць, бадай, найбольшае за ўвесь час сваёй гісторыі зьнішчэньне і руйнаваньне. У ім, як у люстэрку, адбіваецца доўгі і няпросты шлях нацыі да незалежнасьці.

На руінах старадаўняга Берасьця была паказальна збудавана крэпасьць Расейскай імпэрыі. Для прадстаўнікоў агрэсіўнага “рускага міру” яна і сёньня ёсьць сымбалем перамогі над усім, што ім не да спадобы: свабодаю, царквою, мовамі, культурай, традыцыяй. “Рускі мір” інтэнсіўна ачышчае гарадзкія тэрыторыі ад знакаў і месцаў нашай ідэнтычнасьці ды ўсталёўвае тут свой парадак рэчаў, без дапамогі “ветлівых зялёных чалавечкаў”.

## Урбаністычны ляндшафт краіны

Урбаністычны ляндшафт Беларусі імкліва зьмяняе аблічча. Рэдкімі зьяўляюцца выпадкі аховы гістарычнага ляндшафту. У той жа час занадта інтэнсіўна зачышчаецца прастора, якая ўзмацняе беларускую ідэнтычнасьць.

Ва ўрбаністычным ляндшафце краіны зьнікаюць гістарычныя аб’екты і дамінанты. На іх месца ўсталёўваюцца псэўдагістарычныя неўласьцівыя, супярэчлівыя нашай гісторыі, культуры, традыцыі. Зманлівыя сілуэты, вобразы альбо недарэчныя рэканструкцыі, а таксама разбурэньне альбо заціраньне месцаў здарэньняў спакушаюць асобу, зьнішчаюць у ёй адчуваньне беларускай ідэнтычнасьці, разбураюць падставы для кансалідацыі нацыі.

## Дзяржава

Як гэта не парадаксальна, але першымі парушальнікамі закону і Канстытуцыі Беларусі зьяўляецца дзяржаўнае чынавенства. Менавіта па віне дзяржаўнай нядбайнасьці Беларусь падышла да крытычнай рысы страты прасторы нацыянальнай ідэнтычнасьці. Урбаністыная прастора Беларусі прамаўляе “абы што” да “абы каго”.  Гэтую небясьпечную сытуацыю для трываласьці дзяржавы ўсьвядомліваюць адзінкі. Калі нарэшце ўсьвядомяць і дзяржаўныя дзеячы, ім прыйдзецца абапірацца на грамадзянскую супольнасьць. І гэты час ужо настае.

## Грамадзянская супольнасьць

Зьнішчэньням гісторыка-культурнай спадчыны, разбурэньням гістарычнага ляндшафту Беларусі супрацьстаіць малаарганізаваны, але шматколькасны грамадзкі рух, які штодня набірае моцы.

Тут вельмі важна, каб грамадзянская супольнасьць, арганізацыі і лідэры аб’ядналі свае намаганьні ў абароне тэрыторыі і прасторы беларускай ідэнтычнасьці. Неабходна пашыраць абшары незалежнага грамадзкага назіраньня ня толькі за выкарыстаньнем і аховаю гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, але і тэрыторыямі, паглыбляць веды і навыкі ў правядзеньні маніторынгу, фіксацыі, дакумэнтацыі, юрыдычным суправаджэньні.

Асаблівую ўвагу варта зьвярнуць на патрэбу найбольш актыўнай супрацы з адмыслоўцамі. Аб’ектыўная ацэнка іх дзейнасьці можа ня толькі абараніць урбаністычную прастору Беларусі ад хаосу і іншароднасьці, але і своечасова прадухіліць страту асновы яе дабрабыту і сувернітэту-тэрыторыі.

**Алег Хаменка**

# АКСІЯМЭТРЫЧНЫ ПАДЫХОД ДА ПРАБЛЕМ АБАРОНЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСЬПЕКІ

Існуюць два падыходы пры апэрацыяналізацыі паняцьця „нацыянальная бясьпека“. Яна разглядаецца, паводле першага, у кантэксьце абароны нацыянальных інтарэсаў, а паводле другога — базісных каштоўнасьцяў грамадзтва.

У межах абодвух падыходаў прысутнічае праблема — вызначэньне сукупнасьці нацыянальных інтарэсаў або базісных каштоўнасьцяў. Пры пошуку актуальных вырашэньняў адзначанай праблемы зручна карыстацца трыядай пытаньняў: нацыянальныя каштоўнасьці (інтарэсы) — якія яны зараз і як зьмяніліся; для каго яны важныя; за кошт каго (чаго) іх абараняць, аднаўляць, рэалізоўваць?

Аксіялёгія пры аналізе каштоўнасьцяў і каштоўнасных прыярытэтаў карыстаецца вельмі ёмістымі паняцьцямі. У сувязі з гэтым пры вызначэньні спэцыфічнай праблематыкі больш зручна карыстацца аксіямэтрычным падыходам да аналізу сёньняшніх нацыянальных інтарэсаў і каштоўнасьцяў.

Аксіямэтрыя прапануе прытрымлівацца наступных мэтаў: разгляд каштоўнасьцяў у канкрэтных сацыякультурных асяродзьдзях і сытуацыях „набораў“ каштоўнасных сыстэм (ад фэнаменалёгіі); рабіць аналіз суадносна значнасьці каштоўнасьцяў паміж сабой і ў розных сацыяльных суб’ектаў (ад сацыялёгіі і статыстыкі); вывучаць тыпалёгію каштоўнасьцяў і іх носьбітаў — суб’ектаў (ад сацыялёгіі); генэзы і разьвіцьця каштоўнасных уяўленьняў і саміх каштоўнасьцяў (ад гістарычнай сацыялёгіі, культуралёгіі).



Агульнагуманістычныя і дэмакратычныя каштоўнасьці — „свабода“, „спадчына“, „радзіма“, „веды“, „бясьпека“ ды іншыя — сёньня для большай часткі сучаснага насельніцтва Беларусі важныя толькі тады, калі яны зьвязаныя з працэсам адасабленьня ад вонкавых уплываў. На падмурку гэтага падвысілася значэньне каштоўнасьці і ідэі „незалежнасьці“. Просты кантэнт-аналіз выказваньняў палітыкаў адрознай арыентацыі, побытавых размоваў дазваляе ў гэтым упэўніцца. Такім чынам, ідэя „незалежнасьці“ амаль не выклікае непрыязнасьці і выглядае сёньня адной з унівэрсальных каштоўнасьцяў.

У сувязі з тым, што ўсе каштоўнасьці знаходзяцца ва ўзаемаабумоўленай карэляцыі, праз выкарыстаньне патэнцыялу каштоўнасьці „незалежнасьць“ можна паступова ўзмацніць важнасьць такіх каштоўнасьцяў, як „грамадзянская адказнасьць“, „свабода“ і нават „экалягічная бясьпека“ ці „сямейны дабрабыт“.

Калі паставіць пытаньне: „Ці можна абараняць нацыянальную бясьпеку (і незалежнасьць) без удзелу адпаведных дзяржаўных інстытутаў бясьпекі, высілкамі недзяржаўных, няўрадавых грамадзянскіх структураў“, то адказ будзе, хутчэй за ўсё, адмоўным. Аднак пры гэтым трэба зьвярнуць увагу, што пры экспплікацыі каштоўнасьці „незалежнасьці“ можна вылучыць наступныя складнікі: незалежнасьць эканамічная, вайскова-палітычная, культурная. Зразумела, у сёньняшнія часы наднацыянальнай інтэграцыі нават самыя вялікія краіны і дзяржаўныя аб’яднаньні ня могуць зьдзейсьніць ідэю поўнай эканамічнай і вайскова-палітычнай незалежнасьці з адрозных прычынаў, сярод якіх прысутнічае і разуменьне таго, што ўзмацненьне такой „незалежнасьці“ вельмі хутка прыводзіць на тупіковы шлях ізаляцыянізму.

Але „культурная незалежнасьць“ застаецца актуальным і галоўным кірункам у каштоўнасным зьмесьце ідэі „незалежнасьці“. Менавіта гэты кірунак неабходна выкарыстоўваць недзяржаўным грамадзкім аб’яднаньням.

Сёньняшняе беларускае грамадзтва мае безьліч нявырашаных праблем, а няўрадавых структураў, здольных вырашаць іх або канцэнтраваць увагу на іх, надзвычай мала. Таму, падобным арганізацыям у першую чаргу неабходна рэалізоўваць праекты, ідэі, зьвяртаць увагу на хібы сучаснай палітыкі, якія зьвязаныя (або могуць быць зьвязаныя) з каштоўнасьцю „незалежнасьці“, „культурнай незалежнасьці“, „беларускай культурнай адметнасьці“. Менавіта такія ініцыятывы прыцягнуць увагу аморфнай часткі грамадзтва і дазволяць узмацніць уплыў, вядомасьць беларускіх няўрадавых арганізацыяў.

У сёньняшніх умовах гэты шлях здаецца найбольш рэальным для вырашэньня праблем нацыянальнай бясьпекі як дзяржаўнымі, так і няўрадавымі арганізацыямі.

# МІСІЯ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ – АДСТАЯЦЬ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНЫ ВЫБАР І БУДУЧЫНЮ БЕЛАРУСІ

## Зварот удзельнікаў пашыранага круглага стала Асамблеі НДА Беларусі

Сёньня краіна Беларусь і беларускае грамадзтва стаяць напярэдадні самых небясьпечных за ўсе гады незалежнасьці выпрабаваньняў. Геапалітычная сытуацыя — адраджэньне агрэсіўных імпэрскіх амбіцыяў усходняга суседа пад лёзунгам аднаўленьня так званага „Русского мира“ — ставіць пытаньне пра далейшы лёс Беларусі як незалежнай дзяржавы, пра цывілізацыйны выбар і само далейшае існаваньне беларускага народу.

Між тым у выніку апошніх двух дзесяцігодзьдзяў мэтадычнага разбурэньня ўладамі беларускай самасьвядомасьці ды нацыянальнай ідэнтычнасьці наш народ страчвае патэнцыял самаабароны ад паглынаньня аднаўленай недэмакратычнай Расейскай імпэрыяй.

Спадзявацца на тое, што цяперашняя дзяржаўная ўлада ўратуе беларускую незалежнасьць, — беспадстаўна. Як паказвае досьвед Украіны, гарантам незалежнасьці і будучыні дзяржавы можа быць толькі адказнае свабоднае грамадзтва, структураванае ў грамадзянскую супольнасьць. Надзвычайную ролю ў забесьпячэньні пэрспэктывы народу адыгрывае яго цывілізацыйна-культурная тоеснасьць. Менавіта ўгрунтаваныя на дэмакратычных і нацыянальных каштоўнасьцях валянтэрскія ініцыятывы, а не дзяржаўныя інстытуцыі, у крызысны момант здольныя ўзяць на сябе адказнасьць і ўратаваць сытуацыю.

Мы лічым неабходным і неадкладным для грамадзянскай супольнасьці Беларусі, для ўсіх грамадзкіх арганізацыяў ды ініцыятываў (як згуртаваных у Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў, так і іншых), для згуртаваньняў

творцаў вызначыць на бліжэйшыя гады супольную місію, са зьдзяйсьненьнем якой сувымяралася б выкананьне сваёй канкрэтнай задачы.

**Мы фармулюем гэтую місію двума словамі: БАРАНІ СВАЁ.**

Яна раскрываецца:
– у неабходнасьці абараняць нацыянальна-культурную ідэнтычнасьць (мову, культуру, гістарычную памяць) беларускага народу і пачуцьцё гістарычнай прыналежнасьці беларусаў ды іншых нацыянальных групаў, што жывуць у Беларусі, да эўрапейскага культурна-цывілізацыйнага абшару;

– у прыняцьці на сябе адказнасьці за самаарганізацыю беларускага грамадзтва на ўзроўні мясцовых супольнасьцяў, прафэсійных групаў, групаў інтарэсаў;

– у скаардынаванай экспэртнай, інфармацыйнай ды адукацыйнай працы, скіраванай на падвышэньне адказнасьці кожнага грамадзяніна і кожнай грамады за сваю зямлю і сваю краіну, за лёс беларусаў як унікальнага народу і Беларусі як незалежнай дзяржавы, на ўмацаваньне эканамічных, сацыяльных, міжнародна-праўных падставаў дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі як дэмакратычнай дзяржавы.

Заклікаем усіх адказных актывістаў беларускай грамадзянскай супольнасьці — разам ці паасобку — засьведчыць гэтую супольную місію, пашырыць сваю працу ў адпаведнасьці зь ёю і тым даць шанец нашай краіне выйсьці зь цяжкіх непазьбежных выпрабаваньняў годна, зьберагчы незалежнасьць і аднавіць свабоду.

# ПРА АЎТАРАЎ

**Алена Анісім** – філёляг, першая намесьніца старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**Вацлаў Арэшка** – культуроляг, кіраўнік грамадзкага аб'яднаньня "Культурны кантакт".

**Валер Булгакаў** – публіцыст, галоўны рэдактар часопісу ARCHE.

**Алесь Бяляцкі** – грамадзкі лідэр, кіраўнік праваабаронцага цэнтру "Вясна".

**Вінцук Вячорка** – мовазнаўца, старшыня Анамастычнай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

**Ірына Лаўроўская** – мастацтвазнаўца ў галіне ўрбаністыкі і архітэктуры. Дасьледніца гісторыі і архітэктуры Берасьця.

**Тамара Мацкевіч** – пэдагог, намесьніца старшыні Таварыства беларускай школы.

**Пётра Садоўскі** – мовазнаўца, дэпутат Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, першы амбасадар Рэспублікі Беларусь у Нямеччыне.

**Алег Хаменка** – этнамузыколяг, лідэр гурту "Палац".

# АСАМБЛЕЯ НЯЎРАДАВЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

Асамблея НДА — аб'яднаньне грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў, якія вызнаюць дэмакратыю й незалежнасьць Беларусі як свае каштоўнасьці. Асамблея НДА працуе дзеля прасоўваньня й пашырэньня ідэяў НДА, абароны сваіх правоў ды інтарэсаў, дапамогі ў станаўленьні арганізацыяў-сяброў. Асамблея аб'ядноўвае болей за 300 НДА з усёй Беларусі.

Асамблея стварае пляцоўкі для камунікацыі і ўзаемадзеяньня ўнутры сэктару ў выглядзе круглых сталоў і канфэрэнцыяў. Праводзіць агульнанацыянальныя кампаніі, да якіх далучаюцца НДА з розных частак краіны. У 2013 г. у кампаніі Асамблеі „Зробім лепш!“ прынялі ўдзел 27 беларускіх НДА, якія праводзілі культурніцкія і інфармацыйныя кампаніі, займаліся прадстаўніцтвам інтарэсаў грамадзкіх групаў у рэгіёнах.

Асамблея аказвае юрыдычную падтрымку НДА, дапамагае ў рэгістрацыі й правядзеньні грамадзкага аўдыту зарэгістраваных НДА, ажыцьцяўляе маніторынг свабоды асацыяцыяў у Беларусі.

Асамблея праводзіць дасьледаваньні грамадзкага сэктару, а таксама дапамагае прафэсійнаму разьвіцьцю беларускіх НДА. Выдае спэцыялізаваны часопіс для грамадзкіх актывістаў „Асамблея“, робіць сайт пра грамадзкую актыўнасьць у краіне belngo.info, а таксама рассылку пра прафэсійныя магчымасьці для НДА, якую атрымлівае болей за 1000 адрасатаў.
Штогод Асамблея ўручае прэмію за грамадзкі актывізм „Чэмпіёны грамадзянскай супольнасьці“.

**Кантакты:**
ngo@belngo.info
www.belngo.info

